PAŠAUKIMAS.
Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

▼▼▼▼

№ 4 (6) 31-га Жніўня—1926 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

F. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Покліч

**выходзіць два разы ў месяц.**

**Цана нумэру 1 літ.**

Падпіска: на месяц—1 л. 75 ц.
на поўгода—8 л. 50 ц.

За кардон—на 50 цэнтаў у месяц даражэй.

Цана абвесткам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы—ў два разы даражэй.

**Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне „B-vė Knyga“, Laisvės al., 52.**

№ 4 (6). 31-га ЖНІЎНЯ—1926 г. Коўна.

*М. Бяздольны.*

## Беларус!

Не стыдайся ты роднае мовы сваёй.
Нехай „хамская“ яе прazвалі.
Заўжды памятуй тое, што ты яе сын,
Што цябе ў хатцы ў ёй гадавалі.

І не гань надарэмна яе прад другім,
І ня будзь фарысей негадзівы.
Калі прыйдзе пара, за яе моцна устань,
Так як сын беспадкупны праўдзівы.

За жыцьцё гэтай мовы змаганьнікам будзь —
Нехай хваляй яна расплывае ..
З сьвету белага дзетак сваіх дарагіх
Яна голасам маці гукае.

Слухай!... Бо дзеля тых, што ляжаць пад зямлёй
Цяжкай стала зямелька сырая,—
Што іх мова маўчыць, а зямля спрадвякоў
На сабе злых чужынцаў трымае.

Яны ўстануць з магіл, пойдуць ўнукаў шукаць,
Што іх родную мову забылі,
Шлях дзедоўскі пакінулі, служкай сляпой,
Што ля панскага столу служылі.

Беларус не чакай!... Ты ідзі, гдзе цямней—
Там змагайся за роднае слова.
Будзь-жа моцнай, сьвятаю будзь вера твая!
Хай жыве наша родная мова!

# Фэдарацыя, ці ашуканства?

Ад часу прыходу да ўлады Пілсудзкага ізноў паўсталі гутаркі аб фэдарацыйных плянах маршала.

Ідэі фэдарацыі беларускі народ не чураецца. Можна сказаць, што ад часу Вялікага Князства Літоўскага гэтыя ідэі зьяўляюцца традыцыйнымі ў колах беларускага грамадзянства.—Шэраг пытаньняў паміжсобнага сужыцьця на абшарах былога В. Князства Літоўскага было вырашана на падставе думак, маючых шмат супольнага з тым, што цяпер завецца фэдарацыяй. На такіх варунках былі злучаны з В. Князствам Л. Жэмайція, Лівонія, Курлянскае гэрцагства... Звычайна гэтыя ідэі замацоўваліся дынастычнай вуніяй.

Польская палітыка з старадаўніх часаў старалася выкарыстаць такія тэндэнцыі сярод беларускага жыхарства.

У той час, калі ў В. Князстве Л. гэтыя ідэі адыгрывалі вялікую конструктыўную, будаўнічую ролю, Польшча карысталася гэтымі ідэямі для дэканструкцыі, для руйнацыі ладу ў В. Князстве Л.

Дабіўшыся ў часы Ягайлы дынастычнай вуніі з В. Князствам Л., Польшча адразу-ж пастаралася ўплынупь на В. Князствам Л. ў мэтах руйнацыі ўнутранага ладу жыцьця.— Польшча выманіла абецаньне ад Ягайлы, ў сілу якога ён павінен быў прымусіць баярства і, агулам, жыхарства В. Князства Л. прыняць каталіцкую веру. Каб падахвоціць баярства В. Князства Л. да пераходу ў каталіцызм, ім (баярам) надаваліся „правы польскай шляхты“; гэта значыць: зямля, якою карысталіся яны, як службовыя людзі (ўрадоўцы), перадавалася ім ва ўласнасьць, а мейсцовае сялянства аддавалася ім пад прыгон.

Гэткім чынам дабілася Польшча асягнуць непаразуменьня сярод грамадзянства В. Князства Л.—ўвясьці разнабой, затрымаць рост магутнасьці і дабрабыту, каб у канчаткавых мэтах падпарадкаваць В. Князства Л. Польшчы. Польша дакладала ўсіх высілкаў, каб у самым пачатку зліквідаваць нарыхтоўваючаеся паразуменьне паміж Чэхамі і В. Князствам Л. У незабаве пасьля Грюнвальскай бітвы да князя Вітаўта зьвярнуліся прэдстаўнікі вядомага чэшскага змагара Жышкі з прапановаю змагацца разам супроць навалы Крыжакоў,

прычым было на мэце зрабіць дынастычную літоўска-чэшскую вунію і перадаць чэшскую карону Вітаўту.

У 1422 годзе пляменьнік Вітаўта (як намесьнік апошняга) Жыгмант Карабутовіч зьявіўся на чэшскую зямлю і быў ласкава прынят.

Аднолькавыя прапазыцыі рабіліся і Ягайле. Польская ўлада нятолькі не згадзілася сама, але навет дабілася ад Вітаўта. каб ён адмовіўся ад супрацоўніцтва і дынастычнай сувязі з Чэхамі. Польшу менш за ўсё цікавіла ўзмацненьне зьвязаных з ею народаў; яна звычайна ў гэтай справе рабіла ўсё наадварот.

Калі зробленую Ягайлам дынастычную вунію з Польшчай, апошняя скарыстала, каб увясьці палітычную завіруху сярод грамадзянства В. Княства Л.,— то Люблінская парламентарная вунія дала магчымасьць Польшчы сыстэматычна нішчыць культуру ў В. Княстве Л.; пачала нішчыцца беларуская пісьменнасьць (кніжкі паліліся на пляцох), а ў 1697 г. была прымусова ўведзена польскал мова ў дзяржаўных установах.

Пасьля апошняй вялікай вайны, калі беларуская дэлегацыя дамагалася на мірнай канферэнцыі зьдзейсьненьня правоў беларускага народу на самакрэсьляньне, Польшча (1919 г.) запрасіла тагочаснага старшыю беларускага ўраду —А Луцкевіча да Варшавы, гдзе інтэрнавала яго, чым у значнай меры і спаралізавала ўселякую беларускую чыннасьць.

У час Савецка-Польскіх перагавораў у Рызе, Польшча ізноў узялася „абараняць“ правы беларускага народу і давяла справу да падзелу Беларусі, паўтарыўшы тое, што было зроблена ею Андрусаўскім мірам (1669).

Што-ж такое выяўляюць з сябе захады Польшчы аб фэдарацыі?

Гэта ёсьць сыстэматычная, пляновая, ганебная руйнацыя справы ўсіх тых, хто надумаўся зьвязаць долю свайго народу з Польшчаю.

Звычайна фэдарацыя робіцца, каб узмацніць сілы і дабрабыт умаўляючыхся старон. Польшча-ж робіць фэдарацыю, каб зруйнаваць да шчэнту, дагаварваючуюся з ёю старану.

Умовы і дагаворы з Польшчай у часы Ягайлы і потым Люблінскай вуніі давялі да зьніштажэньня дзяржаўнасьці В. Княства Л., далі нашаму жыхарству паншчыну, зьліквідавалі

культуру і, ўрэшце-рэшт, наша баярства, рознымі прывілеямі і ашуканствам, перарабілася ў польскую шляхту. Гэткім шляхам была ўведзена зараза ў гушчу самога грамадзянства.

Заходы Польшчы аб фэдарацыі пасьля вялікай вайны давялі да падзелу беларускіх абшараў, да нячуваных зьдзекаў над жыхарствам, апынуўшымся пад польскай акупацыяй і да асадніцтва, да калёнізацыі беларускіх абшараў выхадцамі з Польшчы. У час, калі ўсім народам было дадзена права на самаакрэсьляньне, Польшча адабрала ад беларускага народу гэтае права. Ў час уваскрошаньня сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці ўсіх народаў, Польшча пазбавіла, адабрала гэтае права ад беларускага народу.

Цяпер, калі ў Савецкай Беларусі нацыянальная справа часу-ад часу набірае моцы, калі беларускае адраджэньне становіцца фактам жыцьця, Пілсудзкі ізноў пачынае гаварыць ад імені Польшчы аб фэдарацыі.

Відавочны посьпех справы беларускага адраджэньня пачынае палохаць польскі імпэрыялізм. Польшча пачынае разумець, што яе стаўка на руйнаваньне беларускай справы не знайшла разлічваемага ею „жыра“ і аказалася бітай.—Справа беларускага адраджэньня—рэальны факт жыцьця. І вось з вуснаў адпаведных польскіх палітыкаў мы ізноў чуем гэту трагічную для нас фразу: „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі.“—Пачынаецца новае баламуцтва, новая сьпекуляцыя высокімі прынцыпамі.

Польшча, паабяцаўшая беларусам **волю,** перапоўніла свае турмы беларускімі змаганьнікамі за нацыянальна-культурную справу і правы беларускага народу.

Польшча кажа аб **роўнасьці**—о, фарысейства!...

Калі і гдзе гэта было, каб польскі пан (кіруючы ў сучасны момант польскай палітычнай справай) лічыў-бы сябе роўным з беларускім сялянінам („z bydłem“)? У жыцьцю мы бачым другое: прыслугачы польскага імперыялізму на сваіх „баданьнях“ травяць прэдстаўнікоў нашага сялянства сабакамі..

**Гутаркі Пілсудзкага аб фэдарацыі гэта ёсьць новы, замаскіраваны манэўр польскай экспанзіі, польскай навалы на ўсход.**

Польшча адчула, што праглынуць жыхарства, акупаваных ею беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель,—не так-то лёгка, што кінутая ёй „кость“ становіцца папярок горла, і

цяпер рашае здаць паняволенае жыхарства ў перапрацоўку,— Польшча жадае адурманіць, дабіцца закалоту паміж беларускім, літоўскім і ўкраінскім жыхарствам, каб потым, яго аслабленага паміжсобнай грызнею, лягчэй было падпарадкаваць і скарыстаць дзеля сваіх палітычных мэтаў.

Польшча выкідвае лёзунг фэдарацыі не для таго, каб узмацніць справу беларускага, літоўскага і ўкраінскага адраджэньня, а для таго, каб правясьці дзяржаўныя межы па Дняпру, а мо і далей на ўсход.

Тая або іншая сталая лучнасьць з Польшчай кіне нашу краіну ў палітычна-вайсковыя авантуры, на гэтыя авантуры, на нацыянальны гвалт, на рэлігійныя непаразуменьні і блутаніну, а не на ўздым дабрабыту краю, будзе зьвернута галоўная ўвага грамадзянскіх колаў, кіруючых дзяржаўнай палітыкай. За лучнасьць з Польшчай, дзякуючы яе жаданьню панаваць над суседнімі народамі,—наша краіна панясла вялізарныя, нязлічаньня страты—**наша краіна зрабілася вайсковым плацдармам, на якім у працягу больш чатырох стагодзьдзяў адбываліся, амаль, бязупынныя войны. Польшча, на чале з Пілсудзкім, жадае з беларускага жыхарства рабіць каінаў, якія з аружжам у руках кінуліся-б руйнаваць тое, што ў справе беларускага адраджэньня зрабіў Менск.**

На працягу чатырох стагодзьдзяў мы з боку Польшчы чуем звар'яцелы крык: „крыві жажду“.

Тая або іншая лучнасьць з Польшчай на доўгі час затрымае разьвіцьцё гаспадарча-эканамічнага поступу нашай краіны. Польшчы, як той бяздоннай бочцы, заўсёды. мала. Яна будзе пнуцца на нашы абшары, каб накінуць нам сваіх асаднікаў. Землі нашых абшарнікаў, калісьці перададзеныя іх прашчурам у карыстаньне (замест пэнсіі), як вайсковым людзям і ўрадоўцам Вялікага Князства, пяройдуць ў запраўдныя польскія рукі, рукі польскіх асаднікаў. Гэтай новай крыўды ад калісьці свайго баярства беларускае сялянства ня забудзе і ня даруе. Нашае панства дарэмна ў чужынцаў шукае сабе абароны і здрадніцкі прадае ім абшары бацькаўшчыны.—Ў новым злачынстве яно ня знойдзе паратунку. Няхай нашае панства, па прыкладу сваіх прашчураў—баяр, стане на запраўды родную глебу—няхай навучыцца быць і зробіцца карысным для мейсцовага працоўнага жыхарства, і за гэты ўчы-

нак ад беларускага сялянства яно здабудзе лепшую ўдзячнасьць, спакой і карысьць для сябе.

Лучнасьць з Польшчай шкодна для сялянства, а яшчэ больш шкодна для росквіту прамысловасьці краю, бо Польшча на нашых абшарах жадае мець рынак збыту для сваіх фабрычных вырабаў і не дасьць магчымасьці ўзмацніцца беларускай прамысловасьці.

Прапанаваня Пілсудзкім акцыя скірована не на карысьць мейсцовага жыхарства, а для зьдзейсьненьня плянаў польскай шляхецкай мегаламаніі, прадыктаваных заходня-эўропейскім буржуазным імперыялізмам. Польшчы не першына выконваць заданьні рознакаліберната, ўсесьветнага імпэрыялізму, яе „спецыяльнасьць“ — наймацца ў гладзіятары, што беларускаму народу ня патрэбна.

Нармальная польска-беларуская размова пачнецца тады, калі Польшча ўвойдзе ў свае этнаграфічныя межы. Граніца на Бугу і Нараву—вось падстава для мірных добрасуседскіх польска-беларускіх адносін.

Фэдарацыя звычайна прапануецца для разьвязаньня канфлікту на падставе ўшанаваньня суверэнітэту ўмаўляючыхся старон. Імкненьня-ж Польшчы скіраваны да вайны дзеля пагвалчэньня суверэнных правоў і дабрабыту суседніх народаў. Прапазыцыі Пілсудзкага аб фэдарацыі зьяўляюцца новай спробай для ашуканства беларускага і другіх суседніх народаў Польшчы.

*Пуцята.*

*Януш Косьцевіч*
літоўскі беларус з Палангі

# ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА КНЯЗІ ЛІТОЎСКА-ГА ВІТАЎТА.

## ВАЕННЫ ПАХОД НА КРЫМ—ШУКАЦЬ ВЫХАДУ ДА ПАЛУДЗЕННАГА МОРА.

З апавяданьняў нашчадкаў татар, што служылі ў літоўскім войску пад князем Вітаўтам.

I.

Нарада прад паходам.

Стары дзед, гарбар, татар з пад м. Трокаў Гусэйн (мы яго звалі Хасень), нашчадак таго сотніка татарскага Чамбула, што служыў за кня зем Вітаўтам у Літоўскім Войску, казаў мне малому, што князь Вітаўт, ідучы паходам, дайшоў да Чорнага Мора, ўехаў на каню ў гэнае мора, ўваткнуў у дно дзіду і сказаў: „Літва дасюль павінна быць!"... Гэну казку да старасьці помню.

Сазваў наш князь Вітаўт ваякаў грамаду,
Дый вядзець дзён колькі ён з імі нараду.
Сам хмурны, сярдзіты ён гэтак гукае:
„Кожная зямелька к мору выхад мае!
„Князь Альгэрд—мой дзядзька—хоць зрабіў край моцны,
„Але к мору маем шлях дрэнны, паўночны,
„Ні прыстані ладнай, ні рачнога сплаву.
„Літва заслужыла ў сьвеце чэсьць і славу,—
„Тож трэба з палудня знайсьці выхад к мору,
„Дык вы, ваяводы, майму радзьце гору".

Ваякі, што з князем у нарадзе сядзелі,
Адзін на другога зкоса паглядзелі.
З князём раз ня першы раду мець прыйшлося,
Калі што часамі судзіць давялося,
Але раду кончыць сам князь трапляў хвацка,
Калі ваяваць шоў—ваяваў зьненацка,
Калі меў нараду, дык радзіўся крута,—

Калі даў нагараду, дык нагарадзіў сыта,—
Калі паход правіў,—ішоў дні і ночы,
Калі дзе заглянуў—то меў гостры вочы,
Адступаць у біцьве ня любіў ніколі,
Наравіў карысьці ўзяць з вайны найболей,
Крыўдзіць людзей мірных заўсёды чураўся,
Дрэнных ваяводаў пазбыцца стараўся.
Край родны Літоўскі любіў да упаду,—
Дабіваўся ўсюды парадку і ладу,
Даносы падлізаў ў жыцьцю ненавідзіў,
Ніколі нікога ні ў чым не абідзіў.
Прыгожы сам, хвацкі, як сокал у лёце,
Вясёлы і сьмелы пры цяжкай рабоце.

Дык слава аб Князю далёка гудзела,
Ўражжая сіла нат' пікнуць ня сьмела.
Да яго ўдаваўся ў бядзе сам Хан Крымскі,
Яму і карону зрабіў Папа Рымскі.
На караля з князяў яго ставіць мелі,
Ворагі зайздросна на Літву глядзелі.

Ляхі з маскалямі яго добра знали,
Бо на сваім карку ня раз паспыталі,
Як дзідай дый цэпам зялезным ваюе
Як цяслом, сякерай дарогу прастуе
І як меч ці Князя, або ваяводы
Кожным махам робіць страшэнныя шкоды.
Тож гэна на сьвеце бадай усе знали,—
Літву разам з Князем усе шанавалі.

Вось і на нарадзе старэйшы падняўся
Дый так да Грамады усей адазваўся:
„Радзіць Князю выхад Літве знайсьці к мору
Цяжка, бо суседзі самі ў гэту пору
Зайздросна на край наш, пэўна-ж, паглядаюць
Дый сілы ня мала яны ў сябе маюць.
Ніхай сам Князь робіць, як сэрцэ дыхтуе,
А кожны з нас к князем заўжды папрацуе“.

Князь Вітаўт на гэта ня казаў нічога,
Толькі частаваў іх—пілі, елі многа,
А пасьля загад даў ў паход сабірацца—
На вёсну ў стэпах Дняпроўскіх зьезджацца.

Праз зіму каб новых чаўноў нарабілі,
Каб дзічыны ў лесе найболей набілі,
Каб дзічыну тую добра-б задымілі,
Каб рыбы сецямі болей налавілі,
Каб яе у печах важна засушылі,
Дый на раку Прыпяць ўсё гэна звазілі...

А як лёд на рэках вясной пазганяець,
Гоншчыкаў грамада чаўны узяць маець.
На Прыпяці шпарка ніхай плыты вяжыць
І плывець вадою, куды Князь накажыць.
На гэтым і скончыў Князь Вітаўт нараду,
Распусьціў да дому ваякаў грамаду.

II.

## Паход да Кіява.

Як толькі вясною ночы пацяплелі,—
Як лугі дый пожні травой ззялянелі,
Як пушчы, дарогі сушэйшыя сталі,
Як па лясох птушкі шчакатаць пачалі,—
На Літве пачалі зьбірацца грамады,
Давацца прыказы, рабіцца загады.
Падняліся сотні, тысячы, бяз меры:
Хто дзіду гатуе, хто вострыць сякеры,
Хто хутка у дарогу свой воз прыпраўляе,
Хто ужо прыбраўся дый каня сядлае.
Есьць шмат тых, што пойдзе у паход пехатою;
Есьць шмат, што плыць маюць на плытах ракою,
Але найбольш конных,—кожны наравіцца
Пайсьці, ці паехаць з варогам пабіцца.

Вось толькі чакаюць свайго ваяводы
Дый на выезд добрай лагоднай пагоды.
Паход будзе доўгі, можа, два-тры годы,
Можа, будзе мець край ня малыя шкоды;
Але-ж гэна лепей сам Князь Вітаут знае,
Бо ў руках ён сілу вялікую мае.

Край заварушыўся, усё закіпела,
Кожнаму па вушы усякага дзела,
Аж і наказ вышаў:ісьці у дарогу.
Хто як змог наскора памаліўся Богу,
Са сваей сям'ею сьлёзна разьвітаўся
І разам з грамадай ў паход адпраўляўся.

Наперад разьведка выехала чынна,
Дзе быць у дарозе дружыне павінна,
Дзе трэба начоўка, рабіць дзе прывалы,
Найсьці дзе патрэбны каням луг ня малы,
Дзе мае грамада у поўдзень абедаць,
Дзе другіх дружынаў ход найлепей ведаць:
Каб адзін другому ня чыніў нязгоды,
Дый сабе ў дарозе не нарабіць шкоды.
Тож ў гэну разведку людзей пасылаюць
Тых, што дух ваенны, моцна цела маюць.
З іх кожны павінен быць чынны і сьмелы,
Бо ад іх залежыць паход часта целы.
Цягнуцца грамады у важным паходзе,
Трымаючы сувязь к свайму ваяводзе.
На сьвеце шмат знаюць як Літва бярэцца,
Апошні ваяка дык до-сьмерці б'ецца.
Жывога ня возьмеш, каб яго палоніць,
Забіць толькі можаш, або ён пагоніць.
Многа хто на сьвеце на сабе дазналі,
Як лоўка Літвіны на вайне ганялі;
Дык знал,—як гоні пад імі дрыжалі.—
Далёкіх суседзяў Літвіны пужалі.
Тож кожны стараўся, каб быць з намі ў згодзе,
Кланяўся, як князю, так і ваяводзе.
Ваякам як славы, так поўна і чэсьці,
Была і у сёлах і у большым месьце,
Бо нашага Князя дык кожны баяўся,
Служыць яму шчыра і верна стараўся.
(Далей будзе).

## Паня Скураловіч.

**(Народнае апавяданьне).**

Жыў ў вёсцы Галынька Цімох, правідловей, ня жыў, а мадзеў. І запраўды, якое там жыцьцё, калі сваёй зямлі ня меў. Заарэндаваў гэта ён паўвалокі ў маёнтку Скураловіч аў А пападзеш толькі ў лапы Скураловічам, то і жыцьцю свайму рад ня будзеш. Нашто ўжо нябошчыца, паня Скураловіч, была бязлітасная, а сын дык той яшчэ больш жорсткім быў. Як на грэх, Цімох выпрасіў у пана ў доўг бярвеньня. Цяперака аддай

трэйці сноп пану за землю ды за бярвеньня дваццаць рублёў у год. Вось і рабі што хочаш. Пану заплаці—сам з жонкаю і дзеткамі мусіш галадаваць. Сядзіць гэта ён так, пануры́ўшы галаву, ды нарэшце, кажа жонцы:

— Дрэнь, Маланка, наша справа. Седзячы тут, на гэтай паўвалочцы, нам ні ў жысьць не разрахавацца з панам. Марнеям як проклятыя. Вось цяперака—за даўгі пану прададзім карову, бо, сама ведаеш, колькі разоў летась я даставаў бізуна, пакуль не сплацілі гадавых разрахункаў. А што далей будзем ра́біць? Трэба шукаць паратунку. Дык вось што жонка, я надумаўся: Пайду ў заработкі. Ты як колечы спраўляйся адна, а я пайду ў сьвет. Можа хутчэй здолеем разжыцьца і затрымаць капейку ў кішэні.

Пагутарылі яны так паміж сабою, параіліся, і пайшоў Цімох.

Ідзе ён лесам ды пасьвіствае, каб сьмялей было. Як не намагаецца на вясёлы лад насьвістваць песьню, а ўсё жалем канчае.—Не ахвота далёка забірацца ад роднай краіны, шкада пакідаць жонку з дзеткамі ў бядзе і горы...

Раптам сустрэкае чалавека.

— Здароў. —

— Здароў. —

— Адкуль будзеш? Бачу не тутэйшы. –

— Я з Галынкі, з маёнтку Скураловічаў. —

— Ага... Куды ідзеш?—

— Дый сам ня ведаю—на заработкі.—

Расказаў Цімох сваю бяду.

— Добра, я дам табе працу. Хочаш на гуту дровы вазіць?—

— А чаму-ж...? Добра.—

Згадзіліся аб цану. Падвёў ён Цімаха да гуты.

— Вось табе і кабыла, будзеш рубаць дровы ў лесе ды падвозіць да гуты. Але мей на ўвазе: **ні ў якім выпадку ня можна біць кабылу па галаве.** Не давядзі бог даведаюся!... прапаў увесь твой заработак і не здабраваць табе самому.—

— А к чаму-ж жывёлу біць па галаве? Ведама, не буду.

Застаўшыся адзін, Цімох зірнуў на кабылу дый сам сабе кажа: „Ну і далі ж мне шкрабу, набяруся я з ёю марокі. Гм... чамуж гэта ён так моцна забараніў біць кабылу па галаве, тут нешта ня спроста.—

Гляне Цімох, ненарокам, на кабылу, а цікавасьць яшчэ больш яго разьбірае. Пачалася праца. Наваліць Цімох такі воз дроў, што і стаенны конь не павёз бы, глядзіць: прэць кабыла, толькі хвастом памахвае.

Так працаваў Цімох целы год і пайшоў у кантору за грашмі. Гаспадар яго і пытае:

— Ну што—біў кабылу па галаве?—

— А на што мне здалася яе галава?—

Атрымаў Цімох грошы, завярнуў у хустачку, памацней абматаў іх анучай, абуўся і кажа сам сабе:

— Ну, цяперака даведаюся ў чым справа.

Падыйшаў наўкола да гуты. Аглядзеўся, ці німа каго. Падкраўся да кабылы ды пруцікам, раз, яе па галаве... Атарапеў сам... перад ім стаіць **старая паня Скураловіч.** Рынуўся было Цімох уцякаць, але ня можа рушыцца з мейсца.

— Ня пужайся Цімох,—кажа паня,—нічога кепскага я ня мысьлю табе рабіць, толькі ты выканай маё даручэньне: Як убачыш майго сына, то мусіш перадаць яму ўсё, што ведаеш пра мяне і дадасі,—**калі ён будзе і надалей так рабіць, як цяперака робіць, то і яго чакае тое, што сталася са мною.**—

— Ой не, ой даруйце, панічка, ну гэга ўпроет немагчыма перказаць вашаму сыну. Ен не паверыць і палічыць, што я сам ўсё выдумаў, каб зьдзекавацца над ім. Заб'е мяне да сьмерці.—

— Я дам табе доказ... вось табе мой пярсьцёнак. Калі сын ня будзе верыць, дык пакажаш яму.—

Крыху ачухаўшыся, Цімох забраў пярсьцёнак і абяцаў пераказаць усё Скураловічу.

— Цяпер ізноў стукні мяне па галаве. Але цяжкія вазы ты на мне вазіў...—

— Ударыў Цімох старую паню па галаве. Глядзь... ізноў кабыла стаіць, толькі ніжняя губа дрыжыць.

— Ну, і здарэньне,—падумаў Цімох, вертаючыся да хаты.

— **Вось паны ўсё страшчаюць нас тым сьветам, але ім і самім там не надта добра паводзіцца.** Чатыры ксяндзы паню адпевалі як памерла, а ўсё-ж дасталася дровы вазіць у гуту за свае ўчынкі. Нечага сказаць, дала мне старая заданьне... Як цяперака прыступіцца да пана, дык і розуму ня даберу.—

Прышоў Цімох да хаты, прывітаўся з жонкаю, дзеткамі

— Ой у час ты, Цімох, зьвярнуўся,—пан так прычапіўся, што ратуначку няма; ледзь каня не прадала, каб толькі разрахавацца з ім за бярвеньня.—

— Нічога, Маланка... Ня езьдзіць пану на нашым каню. Цяпер разрахуемся.—

Сеў Цімох каля столу, а сам рад і не рад. Маланка пачала вазіцца каля печы. Прыглядаецца да мужыка дый пытае:

— Што з табою, Цімох?—

— Ды так... да пана трэба ісьці.—

— Хіба грашай мала зарабіў?

— Зарабіць-та зарабіў, ды, бачыш, справа тут далікатная ёсьць, цяперака не пытай, Маланка, калі-небудзь расскажу.—

Дастаў Цімох грошы, адлічыў колькі належыць пану, рэшту аддаў жонцы. Пайшоў. Ідзе Цімох, а грошы разам з пярсьцёнкам пабрасківаюць у кішэні, толькі страхацьцё да сэрца ўздымаюць. **„Дабро іду рабіць чалавеку, а баюся —ну, што ты сказаш?“.**

Урэшце прышоў, застанавіўся каля чорнага ганку і папрасіў далажыць, што прынёс пану грошы.

Пазвалі ў пакоі да пана.

— Добры дзень, паночку!—

— А! . Цімох!.. Здароў, здароў! Я думаю, што зьбег адсюль, загінуў где-небудзь.—

— Не, паночку. Вось доўг вам свой прынёс.—

—Бачу, бачу.—

Пан забраў, пачаў лічыць, прынесяныя Цімахом грошы, і пытае:

— Гдзе быў, што рабіў?—

— Ды так, паночку... бачыце—трапілася са мною нешта такое, што ня ведаю, як і пераказаць ўсё вашэці.—

Пан пачынае цікавіцца:

Ну, ну, расказвай, раскажы, Цімох.—

— Баюся, паночку, каб вы дрэнна аба мне не падумалі, ды не пачалі злавацца.—

— Вось што выдумаў—пайшоў, зарабіў грошай, каб мне зьвярнуць доуг, а я злаваца буду ..—

— Ня ведаю, як і пачаць... адным словам, **цэлы год на вашай матцы дровы вазіў да гуты.**—

Пан аж падскочыў:

— Да што ты розуму рухнуўся?! —

Не, я ніколі не адважыўся-б, ды сама матка вашэці абавязкова наказала вам усё сказаць.—

Ах ты!...—

Пан, чырвоны ад злосьці, падскочыў да Цімаха, і апошні ледзь не дастаў па патыліцы...

— Вось, паночку, пярсьцёнак вашай маці...—

Пан утрымаўся... і уставіўся вачымі ў пярсьцёнак.

Як не раззлаваўся Скуралові́ч, але матчын пярсьцёнак пераканаў яго. Запрапанаваў Цімаху сесьці ў крэсла і ўсё з пачатку, але ціхенька, пераказаць яму. Даў Цімаху сто рублёў за пярсьцёнак, вярнуў аддадзеныя за доўг грошы і кажа:

— Толькі, Цімох, нікому не кажы, што цэлы год на маёй матцы дровы вазіў да гуты.—

З тае пары ўсьціхаміраўся Скуралові́ч і больш палюднеў.

Бывае часам і на паноў управа. Запісаў *А. Пуцята.*

---

# Літва.

## І-шы КУЛЬТУРНЫ КАНГРЭС.

22-24. VIII. у Коўне адбыўся І-шы Культурны Кангрэс, скліканы т. зв. Культурнай Радай (Kultūros Taryba). Праца ішла надта жыва. Прэдстаўнікаў з мейсц было больш як 300. Былі на кангрэсе міністры і прэдстаўнікі навуковых установаў.

З галоўных рэзалюцый, ухваленых Кангрэсам трэба памянуць:

1. Прасіць Урад, каб хутчэй быў апрацаваны і прыняты Статут Літоўскага Культурнага Фонду і каб выдаткі на яго трапілі ўжо ў новы каштарыс 1927 г.

2. Прасіць Урад, каб яшчэ сёлета пры Мініст. Асьветы стварыць галоўную Раду Асьветы.

3. Сучасная школа не адпаведае інтэрэсам краю, трэба пабудаваць школу на асновах актыўнага досьледу і вольнай крытыкі; школа мусіць быць сьвецкая; навучаньне ў школе 1-ае ступені ўсім прымусовае; плаціць за навучаньне ня трэба; у школе 1-ае ступені вучацца дзеці 7—15 гадоў, у школе 2-ае ступэні—15-20 гадоў.

7. Хутчэй правясьці статут Народнага Унівэрсытэту, апрацаваць плян лекцый, сабраць кадры лектароў.

8. Апрацаваць Статут Бібліатэк, разьбіць увесь край на раёны і ўвясьці бібліатэчную сетку.

9. Праз друк прыблізіць да народных масаў навуку і культуру; зьвярнуць увагу культурных працаўнікоў на друк, дабівацца, каб часопісь і кніга былі-б рэчамі першай патрэбы ў кожнага грамадзяніна Літвы.

11. Культурны Фонд мусіць падпіраць і дапамагаць грашмі літэратурнай працы; штогод праводзіць т. зв. „тыдзень пашырэньня кнігі“.

13. Ваяваць з алкагалізмам.

Афіцыяльнымі органамі абраны часопісі „Kul tūra“ „Mokykla ir gyvenimas“.

**Белар. гуртох зацьверджан.**

У сыботу 28-га жніўня сёл. г. начальнік павету **зацьвердзіў Беларускі Гурток** на горад Коўну і павет. Ў ініцыятыўную групу гуртка ўвайшлі гр.гр. Гайдукевіч, М. Рагевіч, Буднік, Кошкін і Ф. Рагевіч.

**У нядзелю 5-га жніўня** ў 4 г. па паўдні адбудзецца сход для выбараў Праўленьня Каапэратыўнага Пазычковага таварыства ў памешканьні расейскай гімназіі.

---

# У рэдакцыю часопісі „Покліч“.

(Працяг лістоў з падарожжа).

П. Г.!

Толькі што азнаёміўся з вёскаю Даўгердзішкі. Вёска даволі вялікая—налічвае больш паўсотні гаспадарак.—Жыхары беднота, жывуць амаль бядней, як у другіх вёсках; гавораць па-беларуску, ўсе каталікі і знайходзяцца пад польскім уплывам. Доказам гэтаму можа паслужыць ніжэйпададзены факт: Калі, згодна зямельнай рэформы, быў распарцаляваны польскі маёнтак, то малаземельнае жыхарства вёскі адмовілася атрымліваць распарцаляваныя вучасткі і навет ня прынялі каморніка, які прыежджаў высьветляць ім гэтую справу. Сяляне казалі: „Ня можна браць панскія землі, бо гэта трываць так доўга ня будзе, і калі ў Даўгердзішках запануе „польскае права“, то ня толькі адбяруць назад зямлю, але за страты здзяруць з нас апошнюю шкуру“. Даўгердзішскія сяляне ад нарэзкі вучасткаў адмовіліся. Зямлю аддалі сялянам другіх

мяйсцовасьцей, якія цяпер сьмяюцца і пацяшаюцца над даўгердзішцамі. Калі я ім гаварыў, што яны дарэмна якшаюцца з палякамі, што яны не палякі, а беларусы,—то сяляне мне адказвалі: „Калі-б мы ня былі палякамі, то зачым-бы нам прыказвалі галасаваць за польскія сьпіскі?“

Даўгердзішцы вельмі не ўважліва ставяцца да роднай беларускай мовы: „Наша мова“,—яны кажуць, „—вельмі сьмешная, і паны наўмысьне пішуць па-нашаму, каб больш пасьмяяцца. Запраўднай-жа мовай зьяўляецца мова панская, і толькі, карыстаючыся ёю, можна сьвету пабачыць“.

Мне нявольна прыходзіць на думку такое здарэньне: Цёшча аднаго з вядомых беларускіх дзеячоў, заядлая полька, паехала ў Бэрлін. Пайшла да касьцёлу і, убачыўшы ксяндза, звяртаецца да яго „Dzień dobry, panie probaszcz!“ а ён ей адказвае: „Nicht ferschtee (не разумею)“. Яна ізноў да яго: „Ja pytem pana proboszcza, kedy będzie nabożęstwo?“—Ich ferschtee nicht (я не разумею)“.—Вярнулася кабета да хаты страшэнна раззлаваная дый кажа: „Jak to musi być, że pan probaszcz nie razumie po-polskiemu?“ I больш у Бэрліне да касьцёлу не пайшла.

Аказваецца, што і з польскай мовай далёка не заедзеш. Добра ведаючы беларускую мову, можна самому зразумець і цябе зразумеюць—і ў Варшаве, і ў Кіеве, і ў Маскве, і ў Чэхах.—Да Чэхаў паехала беларуская моладзь (каля 200 чалавек), паступіла ў чэшскія ўнівэрсітэты: некаторыя з іх ужо атрымалі вучоныя дыпломы і настолькі добра ўдасканаліліся ў чэшскай мове, што навет творы свае могуць свабодна пісаць у чэшскай мове.—Чаму гэта так? А таму што наша мова вельмі старая, больш зразумелая і бліжэй, у параўнаньні з з другімі, да іншых славянскіх моваў.—Друк на беларускай мове зьявіўся раней, чым на польскай або расейскай.*)

Праўда, цяпер наша мова, ў параўнаньні з другімі, крыху заняпала. Сталася гэта дзякуючы панаваньню на Беларусі чужынцаў, якія нішчылі старую беларускую пісьменнасьць і ў працягу амаль двух стагодзьдзяў забаранялі друкаваць па беларуску.

Каму-ж ад гэтага сорамна—ці нам, беларусам, ці тым, хто рабіў злачынствы над намі?

У наш век, калі маецца вольны беларускі друк, справа хутка папраівіцца. Цяпер у Менску гурток „Маладняк“ аб'ед-

*) 1-ая беларуская кніга надрукавана 1483 г., 1-ая польская—1505 г., 1-ая расейская—1573 г.

нывае больш 500 беларускіх песьняроў і пісьменнікаў. Толькі пасьпевай друкаваць!...

Але адразу, мала сьвядомым людзям, усяго неперакажаш і не вытлумачыш.

У мяне засталося такое ўражаньне, што сяляне Даўгердзішак папалі ў цэпкія польскія лапы і, відаць, ня хутка іх адтуль можна будзе вырваць. Калі, спадзяючыся на „панскую ласку“, адмовіліся ад зямлі, дык на хуткі пасьпех зрабіць іх нацыянальна сьвядомымы разлічваць трудна.

З паасобных грамадзян вёскі Даўгердзішак трэба зьвярнуць увагу на вучыцеля літоўскай школы Д., які жадаў-бы быць вучыцялем у беларускай школе, асабліва калі-б яна была ў яго роднай вёсцы.

Недалёка ад вёскі Даўгердзішак ёсьць вёска Буракі, гдзе знайходзіцца даволі актыўны грамадзянін Б., які абяцаў дапамагчы ў арганізацыі беларускага гуртка.

23-VII-26 г. Семелішкі. У. Н.

---

П. Г.

Пішу Вам з Высокага Двору. Нядалёка адгэтуль знайходзіцца калёнія нашага песьняра Бяздольнага, які атрымаў гэты кавалак зямлі, як бяззямельны і быўшы салдат Літоўскага войску (служыў у Беларускім батальёне). Калёнія яго невялікая, але знайходзіцца ў прыгожай мяйсцовасьці—на березе вялікага возера, тут-жа па суседству—і бор.—Пісьменнік наш жыве ў зямлянцы. Хату толькі яшчэ распачаў будаваць, а калі скончыць—невядома, бо не хапае капіталу. Ад раніцы да вечера Бяздольны працуе або за сахой, або за касой. Так што (як ён кажа) для складаньня вершаў часу ня хапае цяпер, а што гэтаю справаю ён можа прызаняцца ў даўгія васеннія і зімовыя вечары. Вельмі шкадую, што ня меў з сабою фатаграфічнага апарату, каб сфатаграфаваць Бяздольнага ў абставінах яго жыцьця.

У мястэчку Высокі Двор жыхароў беларусоў мала сустракаецца. Найбольш выдатны з іх гр. З., які надта жадае залажыць літоўска-беларускае каапэратыўнае пазычковае таварыства. Мае намер залажыць і беларускі гурток.

У ваколіцах мястэчка таксама рэдка можна сустрэць сьвядомага беларуса. Найбольш тут—засьценковая шляхта, якая са ўсіх сіл б'ецца ў паны і, вядома, лічыць сябе палякамі. Разлічваць на іх у сэнсе культурнай дапамогі беларускаму сялянству ня прыходзіцца, бо спачатку трэба доўга папрацаваць, каб пазбавіць іх польскіх уплываў і зьвярнуць ім запраўднае беларускае пачуцьцё. У. Н

# Радавая Беларусь.

## Інбелкульт.

### У Інстытуце Беларускае Культуры.

**Хто будзе запрошан на беларускую акадэмічную канфэрэнцыю.**

Намечана запрасіць на акадэмічную канфэрэнцыю наступных асоб, якія цікавяцца беларусазнаўствам: праф. Тарашкевіча (Вільня), Антона Луцэвіча (Вільня), Адама Станкевіча (Вільня), Езавітава (Рыга), Ластоўска (Коўна), Янку Станкевіча (Прага) і доктара філёлёгіі Дварчаніна (Прага.)

**Ахова помнікаў старажытнасьці.**

Віцебскае акруговае краязнаўчае т-ва пастанавіла ўзбудзіць хадатайніцтва перад ІБК і СНК БССР аб адрамантаваньні Троіцка-Чорнай царквы, якая знаходзіцца ў заняпадзе.

Памянёная царква каштоўна, як архітэктурны помнік 18-га стагодзьдзя.

**Шэфства Горацкай С.-Г. Акадэміі**

Горацкая С.-Г. Акадэмія трымае шэфства над Магілёўскай акругай у сэнсе ўсебаковага вывучэньня краю.

У маі сёлетняга году праф. акадэміі, Люгэрзгаўзэн, прачытаў лекцыю ў Магілеве на краязнаўчую тэму.

**Арганізацыя краязнаўчага цыклю пры настаўніцкіх курсах.**

Каб належна падтрыхтаваць настаўніка да нармальнай краязнаўчай працы, пастаноўлена арганізаваць пры Віцэбскіх настаўніцкіх курсах цыкль па краязнаўству, дзе будуць чытацца лекцыі па гэтай галіне.

**Аб выданьні слоўніка беларускай мовы.**

Віцебскае акруговае краязнаўчае т-ва пастанавіла здаць у друк слоўнік беларускае мовы.

**Да арганізацыі хімічнай лабараторыі—(Ібк).**

Інстытут Беларускае Культуры арганізоўвае хімічную дасьледчую лябараторыю. Ужо маецца розных хімічных прыладаў, купленых пазамежамі, на 4 тысячы рублёў. Зацьверджан каштарыс лябараторыі на 1926-27 г. і вызначан загадчык яе.

Лябараторыя будзе дасьледваць прыродныя багацьці Беларусі з хімічнага боку і выкарыстоўваць іх у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. Прымаючы пад увагу значную колькасьць у Беларусі крэйды, фасфарытаў, торфу і інш. і іх малую дасьледаванасьць, такая лябараторыя будзе мець вялікае значэньне.

**Да выданьня акадэмічнага слоўніка жывой бел. мовы.**

**(Па матар,ялах ІБК).**

Для выданьня акадэмічнага слоўніка жывой беларускай мовы пры ІБК ўтворана слоўнікавая камісія, у склад якой уваходзяць: Некрашэвіч С. (старшыня), Байкоў М. (сэкратар) і прафэсар Эпімах Шыпіла (член).

Сваю працу слоўнікавая камісія распачала з часу рэарганізацыі ІБК. Мэта камісіі—выдаць акадэмічны слоўнік жывой беларускай мовы. Гэты слоўнік павінен складацца са слоў з твораў нашых пісьменьнікаў, а асабліва-ж са слоў жывой беларускай мовы, якія зьбіраюцца настаўнікамі, аграномамі і іншымі працаўнікамі.

Выданы адозвы да насяленьня аб удзеле ў гэтай карыснай для беларускай культуры працы. Гэтыя адозвы апроч БССР, пашыраны ў Гомельшчыне, Смаленшчыне і Нэвельшчыне, а таксама па-за межамі Беларусі.

Апроч збору слоўнікавага матар'ялу вядзецца праца па складаньню краёвых слоўнікаў жывой беларускай мовы. У 10-ці акругах БССР маюць быць складзены 10 слоўнікаў, а таксама слоўнік Гомельшчыны. Больш інтэнсыўна ідзе праца па складаньню слоўнікаў у Віцебскай і Аршанскай акругах.

Да гэтага часу сабрана да 150 тысяч слоў, якія ўжо занесены на карткі.

Як вышэй было пададзена, слоўнікавым матар'ялам служыц жывая народная беларуская мова і творы беларускіх пісьменьнікаў. Да гэтага часу занесены на карткі словы з твораў Ш. Ядзьвігіна, Чачота, Баршчэўскага „Энэіды навыварат“, Я. Няслухоўскага, Дуніна-Марцынкевіча, а таксама па слоўніку Насовіча і Мядзьведзкага (рукапіс Усесаюзнай Акадэміі Навук).

Знаходзяцца ў стадыі расправоўкі творы: Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, Ф. Багушэвіча, А. Гаруна, М. Чарота, М. Гарэцкага, зборнік Шэйна, слоўнік Я. Ціхінскага (рукапіс ІБК) і Шпілеўскага (рукапіс Усесаюзнай Акадэміі Навук), „Смоленский областной словар“ і ў Ленінградзе, апроч слоўнікаў Мядзьведзкага і Шпілеўскага, выкарыстан матар'ял Ленінградзкага Георграфічнага т-ва.

Вельмі багаты матар'ял дастаўляецца з месц (да 30 тыс. картак).

Акруговыя краязнаўчыя арганізацыі, па весткам, сабралі ўжо да 100 тыс. картак. На падставе гэтых картак будуць апрацоўвацца краёвыя слоўнікі.

Як толькі будуць выкарыстаны фольклёрныа матар'ялы,

часопісы, творы М. Багдановіча, газэты „Савецкая Беларусь“ і інш. матар'ял, магчыма будзе распачаць канчатковую сыстэматызацыю акадэмічнага слоўніка.

Справа ў гэтай галіне вельмі шпарка разьвіваецпа, дзякуючы сувязі с месцамі.

**Запрашэньне новых прафэсараў.**

Праўленьне ВДУ камандыравала прафэсара С. Вальфсона ў Маскву для запрашэньня новых прафэсараў. Апошнія зоймуць вакантныя катэдры факультэту права і гаспадаркі.

**Навуковая камандзіроўка прафэсара Сержпутоўскага.**

Праф. Сержпутоўскі быў камандыраваны Інбелкультам у Гомельшчыну для вывучэньня этнаграфіі насельніцтва. Праф. Сержпутоўскі ў працягу месячнай камандыроўкі наведаўся ў часткі Арлоўскай і Бранскай губ., этнаграфічна заселеныя беларусамі, а таксама ў розныя райёны Гомельшчыны. Прафэсар адзначае, што ўсе вёскі, будынкі, вопратка, побыт і мова насяленьня зьяўляюцца беларускімі. Украінскі ўплыў ў мове, нават на самай мяжы з Украінай (р. Дзясна), зусім не адчуваецца. У вёсцы Краснавіцах на ўсходзе ад Клінцоў гр. Сержпутоўскі спаткаў старую паэтэсу - сялянку Аўдоцьцю Шаўцову. Гэта сялянка знае шмат беларускіх вершаў, сьпеваў.

Праф. Сержпутоўскі спыніўся на вельмі цікавых адносінах да выяўленьня нацыянальнасьці ў часе статыстычнага перапісу насяленьня ў 1920 годзе. Бывалі здарэньні, калі бацькоў запісвалі беларусамі, а дзяцей расійцамі, бо маладзейшае пакаленьне гаварыла з перапісчыкамі па-расійску.

Далей гр. Сержпутоўскі спыніўся на вельмі цікавай групе насельнасьці, якой у іншых частках Беларусі не сустракаецца. Гэтай групай зьяўляюцца казакі, якія ніколі пад прыгонам ня былі. Іх вельмі мала, і яны гаворуць пабеларуску.

**Прэміі за навуковую працу.**

Праўленьне БДУ хадатайнічае перад НК Асьветы Беларусі аб водпуску сродкаў для выдачы прэмій за лепшую наковую працу. Усяго будзе 10 прэмій.

**Адчыненьне Музэю.**

Беларускі Дзяржаўны Музэй, пасьля капітальнага рамонту, адчыняецца ў верасьні. Музэй значна пашырацца за лік некалькіх новых пакояў.

Цікава адзначыць, што галоўня заля Музэю (этнаграфічная) перарабляецца ў беларускім стылю.

**Адчыненьне пэдагагічнага музэю.**

Першы на Беларусі п ц г а

гічны музэй бўдзе адчынены ў Менскім Цэнтральным Доме Асьветы ў верасьні г. г. У музэі будуць сабраны матар'ялы, якія малююць жыцьцё і працу беларускіх школ.

**У Музэі Рэвалюцыі.**
**Куток б. беларускага народнага ураду.**

Нядаўна ў Музэі Рэвалюцыі адчыніўся асобны куток б. Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі.

У кутку сабраны маркі былога Ураду, дыплёматычныя пашпарты сяброў Ураду, газэты, якія імі выдаваліся ў той час, пячаткі ды інш. цікавыя матар'ялы.

**Новыя карціны.**

Мастацкі аддзел Дзяржаўнага Музэю атрымлівае з Ленінградзкага музэйнага фонду партыю новых багатых карцін вядомых мастакоў.

Карціны значна папоўняць гэты аддзел музэю.

**Адчыненьне літоўскіх школ.**

Нар. Кам. Асьветы адчыняе з восені шэраг літоўскіх школ.

Літоўскае бюро пры НКА распачало прыём настаўнікаў у названыя школы.

**Творы пісьменьніка Алеся Гаруна**

Тав. Язэп Лёсік здаў у літаратурную камісію ІБК шмат твораў нябожчыка Алеся Гаруна Гэты літаратурны архіў складаецца з вершаў, апавяданьняў, п'ес, лістоў і артыкулаў публістычнага характару. Усе памянёныя творы да гэтага часу ня былі апублікаваны.

Зараз вядзецца распрацоўка і вывучэньне памянёнага літаратурнага архіву.

**Выданьне ўспамінаў аб беларускіх пісьменьніках А. Гаруну І. М. Багдановічы.**

Пісьменьнік Зьмітрок Бядуля піша ўспаміны аб памёршых беларускіх пісьменьніках Алесю Гарунку і М. Багдановічу.

Успаміны аб М. Багдановічу будуць выданы разам з III-м томам твораў М. Багдановіча.

**Біблія Мікалая Радзівіла.**

У Слуцкай акрузе знойдзена біблія Мікалая Радзівіла, друкаваная ў Бярэсьці ў 1563 г.

У хуткім часе біблія будзе дастаўлена ў Беларускі Дзяржаўны Музэй.

**Архэолёгічныя раскопкі.**

Нядаўна архэолёг А. Аніхоўскі па даручэньню Інбелкульту, абсьледаваў груупы кургаоў каля вэсак Стары-Дзедзін, Пранічкі, Раськова, Іванаўскае ды інш Мілаславіцкага райёну, Калінінскай акр.

У большасьці раскапаных кургаоў выяўлена пахваньне старaславянскага тыпу — праз спальваньне трупаў, а ў некаторых знойдзены шкілеты, якія вельмі добра захаваліся (больш позьняга пэрыяду).

Надзвычайна цікавым і каштоўным зьяўляецца адшуканьне

каля в. в. Дзедзін і Раськова асабістага пабудаваньня лейкавідных ям, якія дасягаюць у дыямэтры да 34 мэтраў і глыбінёй—да 3 в паловай мэтраў.

Раскопкамі ўстаноўлена, што гэтыя ямы зьяўляліся жыльлём чалавека дакурганнага пэрыяду.

Знойдзеныя на вялікай глыбіні на дніщчах гэтых ям ачагі і характар каменных прыладаў дазваляюць думаць, што гэтыя пабудаваньні можна аднесьці да пэрыяду пераходу ад палеоліту да нэоліту. Гэта першае выяўленьне на тэрыторыі Беларусі сьлядоў прабываньня старажытнага чалавека.

# Прамысловасьць, сельская гаспадарка і каапэрацыя.

**Пасеўная плошча па БССР у 1926 годзе.**

Згодна даных ЦСУБ, дапушчальная пасяўная плошча па БССР выяўляецца ў наступных лічбах:

Азімыя засевы: жытам у 1925 г. было засеяна – 998.208 дзес., прырост, у параўнаньні з мінулым годам на 2,7 проц. У 1926 г. плошча засеву жыта засталася леташняя.

Пшаніцай у 1925 г. было засеяна—20.328 дзес. прырост на 14,8 проц.; у 1926 г.—21 141 дзес., прырост—4 проц.

Яравыя засевы: пад жытам у 1925 г. было—17 438 дзес., памяншэньне—на 36,7 проц., у 1926 г.—14 474 дзес., памян шэньне—на 17 проц.

Пад пшаніцай у 1925 г. было —81.186 дзес., прырост на 3,1 проц., у 1926 г. 74 691 дзес., прырост на 8 проц.

Ячмень: у 1925 г. – 196.316 дзес., прырост на 0,9 проц., у 1926 г.—202.205 дзес. прырост на 3 проц.

Авёс: у 1925 г. займаў—453.940 дзес., прырост на 8,2 проц. у 1926 г.—472.098 дзес., прырост на 4 проц.

Грачыха: у 1925 г.—142.935 дзес., прырост на 25 проц., у 1926 г.—150.082 дзес., прырост на 5 проц.

Проса: у 1925 г.—22.886 дзес., прырост на 15,3 проц., у 1926 г.—23.343 дзес., прырост на 2 проц.

Гарох і чачавіцца: у 1925 г. —42.536 дзес., прырост на 24,9 проц, у 1926 г.—46.364 дзес. прырост на 9 проц.

Боб: у 1825 г.—14.780 дзес., прырост на 56,5 проц., у 1926 г. 15.657 дзес., прырост на 6 пр.

Агулам зернавая пасяўная плошча ў 1925 г. складала 1.990 546 дзес. (павялічэньне супроціў 1924 г. на 5,5 проц.), а ў 1926 г.—2.018.267 дзес. (павялічэньне ў параўнаньні з 1926 г. на 1,4 проц.)

**Узрост тэхнічных культур.**

Побач з узростам прамысловасьці БССР узрастае плошча тэхнічных культур. У той час, як у 1916 годзе лён і канапля займалі 4,16 проц. пасяўной плошчы, а бульба 8,67 проц., у 1925 годзе лён і канапля займаюць 4,66 проц. пасяўной плошчы, а бульба—11,31 проц.

**Павышэньне ўраджайнасьці.**

У параўнаньні з 1913 годам у 1925 г. павысілася ўраджайнасьць з дзесяціны: азімага жыта—на 5,7 пуд., ячменю на 4,1 пуд., аўса—на 7,4 пуд., бульбы—на 116 пудоў.

**Мэліарацыйныя таварыствы БССР.**

Па вестках Наркамзему, рост мэліарацыйных таварыстваў БССР за мінулы пэрыяд выяўляецца гэтак: у 1921 г. было 13 т-ваў з 449 сябрамі—на плошчы 683 дзес., у 1922 годзе—59 т-ваў з 2890 сябрамі на плошчы 4169 дз., у 1923 г.—103 т-ваў з 4868 сябр.—на 7790 дз., у 1924 г.—254 т-ваў з 13811 сябр.—на 38995 дз., у 1925 г.—425 т-ваў з 24746 сябр. на 78549 дз.

Таварыствам, якія актыўна паляпшаюць свае землі, даюцца перавагі пры атрыманьні пазык на мэліарацыю з крэдытаў Белсельбанку ды іншыя льготы.

**Досьлед плошчы сенажацяў.**

Згодна досьледу Наркамзему плошча сенажацяў у БССР зараз дасягае 1.582.000 дзес.

Па катэгорыях яны падзяляюцца гэтак: заліўных—264800 дзес., сухадольных—758660 дз., лясных—51410 дзес. і балотных —507130 дзес.

**Заводы племянных сьвіней.**

НКЗ абсталяваў у Слуцкай і Аршанскай акругах 2 заводы племянных сьвіней.

Абсталяваньне заводаў каштавала 45.000 рублёў.

**Да вывазу яблык.**

Бэлсельтрэст зрабіў умову з Ленінградзкімі ўстановамі на выааз увосень сёл. г. на ленінградзкі рынак 50.000 пуд. беларускіх яблык.

**Перапрацоўка садовіны.**

Летась перапрацоўка яблык у фруктовае віно вялася тольκі ў саўхозе Забалоцьце (Аршанскай акр.)

Сёлета будзе пушчаны яшчэ адзін завод (у саўхозе Грудзінаўка, Магілёўскай акр.).

Там-жа абсталёўваецца сушыльна-варачны завод для вырабу з садовіны пасьцілы, мармаляды і г. д.

**Аб запасьпечаньні БССР с.-г. прыладамі і машынамі.**

Прэзыдыум Дзяржаўнай Плянавай Камісіі канстатуе, што плян забясьпечаньня БССР імпортнымі с.-г. прыладамі на

1926-27 г. прадугледжвае максымальнае забясьпечаньне запатрабаваньняў сельскае гаспадаркі.

Увесь імпортны плян зацьверджан у суме 2.787.780 руб.

**Праца прамысловасьці ВСНГБ у 3-м квартале 1926 году.**

У мінулым квартале наглядаецца далейшае павялічэньне агульнага вырабу прамысловасьці ВСНГБ, які акцэньваецца ў 6.399.520 рублёў (даваенных), што ў адносінах да 2-га кварталу 1925-26 году складае 109,6 проц., а ў адносінах да 3-га кварталу 1924-25 г.—143,7 проц.

Вытворчая праграма выканана на 112,9 проц.

З найбольшым посьпехам вытворчая праграма была выканана па гэткіх галінах прамысловасьці: шкляной—153,5 процанта вытворчага пляну (хаця ў параўнаньні з мінулым кварталам ёсьць некаторае зьніжэньне вырабу—на 0,9 процанта), папяровай—132,09 процанта, дрэваапрацоўваючай — 130,7 процанта і харчовай—121,8 процанта пляну. Такім чынам, па найбольш важных і буйных галінах прамысловасьці вытворчая праграма выканана з перавышэньнем пляну. Няпоўнасьцю выканана вытворчая праграма па мэталёапрацоўваючай прамысловасьці — 92,3 процанта пляну, льнаправільнай—88,4 процанта, хімічнай — 87,4 процанта, скураной—87,2 процанта і шчаціннай — 75,1 проц.

Найбольшы рост прадукцыі, у параўнаньні з мінулым кварталам, дае: шчацінная прамысловасьць—154,8 процанта, дрэваапрацоўваючая — 136,2 процанта, папяровая—118,5 процанта, льнапрадзільная—114,8 процанта і мэталёапрацоўваючая—117,7 проц. Агульная прадукцыя зьнізілася, у параўнаньні з мінулым кварталам, у шкляной прамысловасьці — на 99,4 процанта, харчовай—92,1 проц., хімічнай—89,0 проц.

Рост прадукцыйнасьці працы, у параўненьні з мінулым кварталам, наглядаецца ва ўсіх галінах прамысловасьці; тое ж можна сказаць і ў адносінах да адпаведнага кварталу леташняга году, за выключэньнем шчаціннае прамыславасьці, якая дала зьніжэньне на 14,3 процанта. Па ўсяму ВСНГБ прадукцыйнасьць працы павялічылася, у параўнаньні з мінулым кварталам, на 12,9 процанта, а ў параўнаньні з 3-м кварталам 1924-25 году—на 1,9 процанта. Найбольшы рост прадукцыйнасьці працы даюць гэткія галіны прамысловасьці: шчацінная—173,0 процанты, мэталёапрацоўваючая — 121,3 проц., папяровая – 119,0 процанта і дрэваапрацоўваючая — 114,9 проц.

Ня гледзячы на тое, што вытворчая праграма ў некаторых галінах прамысловасьці ня выканана, ўсе-ж у іх нагляда-ецца некаторы прагрэс у параўнаньні з мінулым кварталам. Так, па льнапрадзільнай прамысловасьці агульная прадукцыя дае рост на 14,8 процанта (у параўнаньні з 3-м кварталам 1924-25 году на 143,7 процанта), прадукцыйнасьць працы —на 7 проц. Па шчацінна́й— рост прадукцыі на 54,8 проц. прадукцыйнасьці працы — на 21,3 проц.

Асабліва прыемны малюнак мы бачым у папяровай прамысловасьці: вытворчая праграма выканана на 132 9 проц-цанта, агульны выраб павялічыўся, у параўнаньні з мінулым кварталам, на 18,5 проц., прадукцыйнасьць працы—на 19,0 проц., у дрэваапрацоўваючай: вытворчая праграма выканана на 130,7 проц., выраб. павялічыўся на 36,2 проц., прадукцыйнасьць працы — на 14,9 проц.; у шкляной: вытворчая праграма выканана на 153,5 проц., прадукцыйнасьць працы павялічылася на 121,8 проц

Намінальная заработная плата (даныя за красавік, май) складала па ўсяму ВСНГБ 51,7 чырв. руб., павялічыўшыся, такім чынам, у параўнаньні з мінулым кварталам на 7 проц. і з 3-м кварталам 1924-25 г. на 10,5 проц.

Найбольшы рост зарплаты дае льнапрадзільная (17,5 проц.) і металёапрацоўваючая (13,1 проц.) прамысловасьці. Рост заработнае платы больш менш адпавядаў павялічэньню прадукцыйнасьці працы, крыху адстаючы ад яе.

Рэальная зарплата складала па ўсяму ВСНГБ у сярэднім 22,3 руб., зьнізіўшыся, у параўнаньні з мінулым кварталам, на 1,8 проц. і павялічыўшыся супроць 3 кварталу 1924 25 г. на 2,8 проц.

Падагульваючы ўсё гэта, мы можам адзначыць, што пасьля некаторага затрыманьня тэмпу працэсу адраджэньня нашае прамысловасьці ў першых паўгодках 1925-6? г., у працягу 3 кварталу 1925 26 г., у працягу 3 кварталу 1925-26 г. мы наглядаем узмацненьне гэтага аднаўленчага пэрыяду, якое выяўляецца ў спагадных паказальніках па ўсіх галінах працы прамысловасьці ВСНГБ.

## Што падрыхтаваў цэнтразем-склад для вёсні.

### Машыны.

Для продажы ў бліжэйшы час Цэнтраземсклад загатовіў: плугоў—15.000 штук, акучнікаў —1.000 штук, касілак—50 штук, малатарняў—1.000 шт., манежаў—300 штук, веялак—500 шт. і барон—1.000 шт.

**Дробныя прылады.**

Загатоўлена на 20.000 руб. рознага малочнага інвэнтару, 100.000 кос, 48.000 сярпоў, 50.000 вілаў, масларобнае і млынавае абсталяваньне.

**Штучнае ўгнаеньне.**

Загатоўлена 250.000 пудоў супэрфасфату, 50.000 пудоў касьцяной мукі і 3.000 пудоў салетры.

**У Цэнтраземскладзе.**

Прыбыла з Нямеччыны 844 конна-ручных малатарні фірмы „Ланц“.

У хуткім часе ЦЗС атрымае яшчэ 40 жатак з заводаў СССР.

Усе гэтыя рэчы будуць разьмяркованы сярод сялянства праз акруговыя філіялы ЦЗС і каапэрацыю.

**Насеньне для бядняцкіх гаспадарак.**

ЦК сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі ў працягу 1926-27 году мае даставіць насеньне для 100.000 бядняцкіх гаспадарак БССР. На кожную гаспадарку будзе адпушчана 5 пуд.

**Каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак.**

У працягу 1926-27 году ЦК сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі мае каапэраваць 30.000 бядняцкіх сялянскіх гаспадарак.

**Адчыненьне ўнівэрсальнага магазына ў Горках.**

Белкаапсаюз асыгнаваў 10.000 руб. і адкрыў таварны крэдыт у разьмеры 5.000 р. на адчыненьне ўнівэрсальнага магазыну пры с.-г. акадэміі ў Горках. Акрамя таго, белкаапсаюз узбудзіў хадайніцтва аб выдачы Горацкаму спажывецкаму каапэратыву каротка-тэрміновай пазыкі ў суме 10.000 р.

**Фінансаваньне новай загатоўчай кампаніі.**

На 1926-27 год у БССР намечана загатовіць у цэнтралізаваным парадку 3.000.000 пудоў збожжа, у дэцэнтралізаваным парадку 2.700.000 пудоў.

У першым квартале (жнівень-верасень) мае быць загатоўлена 945.000 п., з якіх 500.000 п. фінансуюцца ў цэнтралізаваным парадку

Пляны цэнтралізаванага і дэцэнтралізаванага крэдыту на жнівень-верасень пабудаваны згодна прапановы Нар. Кам. Гандлю СССР з рахунку: 4 кап. на пуд загатоўкі, як цэлявая пазыка, і 80 проц. каштоўнасьці пуду загатоўкі, як падтаварны крэдыт, з якога 50 проц. выдаецца ў выглядзе банкавага крэдыту.

Па пляну прадугледжваецца, што ў парадку цэнтралізаванага фінансаваньня за першы квартал Хлебапрадукт загатовіць 150.000 пуд., Цэнтрасаюз —165.000 пуд. і „Масложирсиндикат“—85.000 пуд. На загатоўку гэтых 500.000 пудоў патрабуецца: цэлявога крэдыту

—120.000 руб., блянкавага—125.000 руб. і падтаварнага—125.000 р.; усяго 370.000 руб.

У парадку дэцэнтралізаванага фінансаваньня БССР мае загатовіць за гэты-ж час (Белкаапсаюз, Белсельсаюз і Дзяржгандаль) 475.000 пуд., на што патрабуецца: цэлявога крэдыту —108.000 руб., блянкавага—118.750 руб. і падтаварнага—118.850 п.; усяго—345.500 руб.

У зьвязку з тым, што ў першых чыслах жніўня магчыма зьяўленьне на рынку новага хлебу, што выклікае неабходнасьць своячасова забясьпечыць загатоўцаў адпаведнымі сродкамі, Нар. Кам. Гандлю БССР узбудзіў хадайніцтва перад Нар. Кам. Гандлю СССР аб хутчэйшым выдзяленьні сродкаў для вядзеньня загатовак у БССР—у працягу жніўня-верасьня—у суме 715.000 рублёў.

# Будаўніцтва.

**Будаўнічы сэзон 1925-26 г.**

Па няпоўных вестках, якія ёсьць у даны момант (на 15 ліпеня 1926 г.) уся каштоўнасьць будаўнічых работ па БСССР прыблізна раўняецца 15.930.000 руб. Па асобных установах гэта сума разьмяркоўваецца гэткім чынам: Вышэйшы Савёт Народнае Гаспадаркі—каля 2.657 000 р. (прыблізна 16 проц.), камунальнае будаўніцтва—1.780.000 р. (прыблізна 12 проц.), па шляхаваму будаўніцтву Аддзелу Мясцовых Пабудаваньняў Заходняга Вокругу на 2.000.000 р. (прыблізна 12 проц.), па шляхаваму будаўніцтву Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў на 1.113.000 р. прыблізна 7 проц.), па ваеннаму ведамству і Народнаму Камісарыяту Шляхоў Зносін на 4.500.000 руб. (прыблізна 28 проц.) на іншых Народных Камісарыятах і ўстановах—3.270.000 р. прыблізна 22 проц.) і на грамадзкія працы 610.000 р. прыбл. 4 проц.).

Што тычыцца паасобных найбольш буйных пабудаваньняў, дык можна адзначыць па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі пабудоўку новага скуранога заводу ў г. Менску, пабудоўку новага вялікага фанэрнага заводу ў Віцебску (будаўніцтва ВСНГ Саюзу) і пабудоўку дамоў для рабочых Лесбелу.

Затым можна адзначыць будаўніцтва Народнага Камісарыту Асьветы, між іншым, пабудоўку вялікага цаглянога заводу гандлёва-будаўнічым трэстам, вялікае будаўніцтва беларускім саюзам кватэрна будаўнічай каапэрацыі, значнае будаўніцтва Народным Камісарыятам Аховы Здароўя, пабудоўка

Галоўнай Управай Сяцыяльнага Страхаваньня санаторыі „Сасноўка“ каля Віцебску (работа бягучага году—300.000 р.), пабудаваньне дому адпачынку на станцыі Ждановічы і затым пабудаваньне і аднаўленьне буйных будынкаў Управай Дзяржаўнага Страхаваньня і Дзяржаўным Банкам.

На рабочае кватэрнае будаўніцтва Беларускі Саюз Кватэрна-Будаўнічае Каапэрацыі асыгнаваў 805.000 р. і па аддзелах камунальне гаспадаркі-1.780.000 р. Калі да гэтага далучыць і прыватнае будаўніцтва, дык у вогуле выйдзе значная сума.

Такім чынам, можна лічыць, што праца бягучага будаўнічага сэзону будзе выканана ў поўным абхваце, па колькі на 15 ліпеня, ня гледзячы на перабоі ў забясьпечаньні будаўнічымі матар'яламі, яна выканана на 40 пр., а большая ж частка сэзону яшчэ наперадзе, большая частка матар'ялаў ужо загатоўлена і своечасовая дастава яго забясьпечана.

**Рамонт унівэрсытэцкіх будынкаў.**

Праўленьнем БДУ распачата праца па правядзеньні рамонту ўнівэрсытэцкіх будынкаў. Усяго на рамонт адпушчана 84000 рублёў. Да пачатку новага навучальнага году рамонт будзе поўнасьцю закончан.

**Каналізацыя Менску.**

Вярнуўся з Масквы намесьнік старшыні Менскага АВК т. Рабіновіч, які вёў перагаворы з акцыянэрным т-вам „Водоканал“ аб увядзеньні Нямігскае канавы ў жалеза - бэтонную трубу.

Гэта работа распачнецца ў бліжэйшыя 2-3 тыдні і мела быць закончана да пачатку лістапада.

Уся работа будзе каштаваць каля 500 тысяч руб. і складзе частку агульнага пляну па правядзеньню каналізацыі г. Менску.

**Пабудова халадзільніка.**

З Масквы прыехаў прадстаўнік фірмы, з якой зроблен дагавор на пабудову халадільніка пры Менскай бойні.

Работы па гэтай справе распачнуцца ў хуткім часе.

## Новая гарбарня ў Менску.

**Гарбарня па апошняму слову тэхнікі I і III гарбарні будуць аб'яднаны. Адчыненьне ў 1927 г.**

Сёлета ў Менску распачалася вялізная кампанія па пабудоўлі новых заводаў і цэхаў.

На заводзе „Энэргія“ амаль закончана ўжо праца па пабудоўлі новага мэханічнага цэха. На днях завод прыступае да будоўлі новага цэха-сьлясарнага.

У гэтым жа раёне (Ляхаўскім) 10 мая пачалася будаўнічая праца новага вялізнага гарбарнага заводу.

Завод будуецца на сродкі „кожтрэсту“. Усяга на будоўлю адпушчана 400.000 рублёў.

Завод аб'яднае I і III гарбарню у адну вялізную гарбарню.

Новы завод будуецца па апошняму слову тэхнікі. Інжэнэр Сарокін у гутарцы адзначыў, што дагэтуль у СССР няма заводаў, якія-б працавалі па самых новых мэтадах.

Новая наша гарбарня першая будзе ўжываць апошнія дасягненьні ў гэтай галіне.

На новым заводзе будзе мэханічная вэнтыляцыя, цэнтральны мэханічны апал, пад'ёмныя краны, ваганеткі ды інш.

Цікава адзначыць, што для таго каб зрабіць менш шкоднымі кіслоты, на заводзе будзе пабудована спэцыяльная біолёгічная каналізацыя.

У сучасны момант будаўнічыя працы на новым заводзе ідуць хуткім тэмпам.

Усяго на пабудоўцы занята 120 ч. Хутка гэтая лічба будзе павялічана да 200 чал.

Сярод рабочых, якія заняты на будоўлях, праводзіцца значная культурная праца.

Арганізаван рабачком. Адчынен куток-чытальня. Культкамісія рабачкому правяла некалькі экскурсій з рабочымі ды інш.

Па думцы т. Сарокіна пабудова новага заводу будзе закончана ў снежні г. г. Адчыненьне гарбарні адбудзецца ў 1927 годзе.

**200.000 р. на крахмальна-патачныя заводы.**

Па крэдытна-імпортнаму пляну выдзелена на абсталяваньне крахмальна-патачных заводаў у БССР 200.000 руб.

**Капітальны рамонт электрастанцыі і шчацiннай фабрыкі „Госторгбела“.**

У працягу бягучага будаўнічнага сэзону будзе зроблен капітальны рамонт на электрастанцыі і шчацiннай фабрыцы „Госторбела“.

**Аб пабудаваньні першай раённай электрастанцыі ў БССР.**

Прэзыдыум Дзяржпляну, заслухаўшы даклад камісіі, якая абсьледавала раён Віцебск—Ворша—Шклоў, прызнаў мэтазгодным пабудаваць электрастанцыю магутнасьцю ў 20.000 кілёват на Асінаўскім тарфяным балоце бліз гор. Воршы.

Бюро па электрафікацыі даручана падрыхтаваць неабходныя матар'ялы з такім разрахункам, каб пытаньне гэта магло быць заслухана ў электраплянe „Главэлектро“ у другой палове г. г.

Прэзыдыум Дзяржаўнай Плянавай Камісіі знашоў патрэбным зрабіць топографічныя зьёмкі у раёне возера Арэхі і дасьледаваць басэйн ракі Аршыца, асыгнаваўшы на гэта адпаведныя сродкі.

Далей пастаноўлена запрапанаваць бюро па электрыфікацыі скласьці дакладную запіску ў СНК БССР па пытаньню аб асыгнаваньні патрэбных сродкаў для папярэдніх работ, зьвязаных з пабудовай раённай электрастанцыі.

Апроч таго, запрапанавана бюро па электрыфікацыі падрыхтаваць для прэзыдыуму Дзярж. Плян. Кам. даклад аб магчымасьцях пабудовы гідраэлектрастанцыі на Кабеляцкіх парогах каля г. Воршы.

**Будаўніцтва Сав. Нар. Гаспадаркі.**

Па праграме Сав. Нар. Гаспадаркі намечана пабудаваць: 2 новых заводы ў Менску (скураны і цагляны), якія будуць закончаны ў 1926-27 г., капітальна адрамантаваць і пусьціць 4 броварныя заводы і распачаць пабудоўку дрэвамаснага заводу пры папяровай фабрыцы „Спартак“ у Шклове.

Апроч таго, намечаны да адбудаваньня: лесапільна фанэрны камбінат у Бабруйску (коштоўнасьцю да 1.200.000 руб.) і запалачную фабрыку (на 1.750.000 руб.)

Абодва заводы маюць быць закончаны ў 1927-28 г.

Адначасна праэктуецца пабудаваць 5 новых бачарна-клёпачных заводаў на агульную суму на 60.000 р. і вытворчасьцю 425 тыс. камплектаў у сэзон пры 2-хзьменнай працы.

Частка заводаў пачне работу ўжо у 1926-27 г., а лесапільны камбінат і запалачная фабрыка —толькі ў 1928 г.

## Заходняя Беларусь.

**Веча паслоў Сял.-Работніцкай Грамады.** У нядзелю 8 жніўня ў залі кіна „Геліос“ адбылося веча паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайловскага і Шапела. Народу сабралася шмат, больш 1000 чалавек Пасол Тарашкевіч знаёміў слухачоў з сучаснай палітычнай сытуацыяй у працягу гадзіны. Калі прамоўца пачаў прыхільна адзывацца аб справе зямельнай у СССР, кучка пілсудчыкаў пачала выкрыкываць аб голадзе ў СССР і ня даваць паслу гаварыць. Прысутныя згодна пачалі дамагацца выгнаць крыкуноў, тады апошнія паднялі шум і далі гэтым прыцэпку паліцыі, што толькі чакала гэтага, разагнаць веча.

Публіка, ня гледзячы на беспрарыўны разгон з боку паліцыі, на вуліцы пяяла „Ад веку мы спалі“...

Цікава, адзначыць, што ў аднэй з лёжаў „Гэліосу“ сядзеў на мітынгу і „сам“ начальнік віленскае палітычнае паліцыі. Можна падзякаваць за ўвагу.

Як трэба было спадзявацца, ўся Віленская штодзённая польская газэта апісала веча ня згодна з праўдай і як быццам змовіліся ўсе забыцца аб тым, што „пілсудчыкаў“ было зусім мала. Затое ўся публіка стаяла выразна на старане паслоў.

## Паход на „Крэсы“—па зямлю.

„Народная справа“ № 9 сёл. г. піша:

„Сельска-гаспадарчы інструктарат Бэндзінскага Сойміку (—ў каранной Польшчы) арганізуе акцыю ў кірунку тварэньня асадніцкіх групаў на Крэсах і перасяляньня кандыдатаў на землі вялікшых двароў, якія парцэлююцца на Крэсах. З гэтай мэтай завязаны зносіны з Дзяржаўным Зямельным Банкам“ і Акруговымі Зямельнымі Урадамі на Крэсах.

Д. З. Б. ужо прыслаў сьпіс групы маёнткаў і будзе далей прысылаць у меру прыбываньня абшараў пад парцэляцыю.

Вялікшыя абшары—ад некалькіх да колькінадцацёх тысячаў гэктараў—паступяць у распараджэньне Банку толькі ўвосені сёлетняга году—на ўсходніх узьмежках былое Кангрэсоўкі і на найбліжэйшых Крэсах.

Каб зрабіць пачатак акцыі, сельска-гаспадарчы Інструктарат у кожную сераду дае інфармацыі кандыдатам на асаднікаў і прымае дэклярацыі на надзелы на Крэсах.

Пасьля ўтварэньня групы з 10—15 кандыдатаў адбудзецца выезд паўнамоцнікаў групы на месца, каб разглядзецца на зямлі і пазнаёміцца з варункамі. Тады група гэная будзе з'арганізавана ў саюз асаднікаў і паслана на месца асяленьня.

Як бачым **паход па нашу зямлю,** без якое нам самым жыць абсалютна немагчыма, **ужо распачаўся!**

Але мэта гэтага паходу—ня толькі ў тым, каб „ашчасьлівіць“ коштам беларускага сялянства—беззямельнікаў і малазямельнікаў з этнаграфічнае Польшчы. Не: першая і галоўная мэта асадніцтва на Крэсах—гэта ратаваньне польскіх маёнткаў ад польскіх-жа сялян на чыста польскай тэрыторыі!“

**Ад Рэдакцыі.** Усе вышэйпададзеныя артыкулы паказваюць, чаго варты і куды скіраваны прапазыцыі Пілсудзкага аб фэдарацыі.

**Новы Сібір.** Гэтакі новы Сібір знайшоў біскуп Пінскай дыацэзіі кс. Лазінскі, які высылае ў глухі куток Бельскага павету да мазураў (вылучна палякі) беларускіх ксяндзоў, каб яны ня мелі жаднае стычнасьці з сваім беларускім жыхарствам.

У апошні час туды засланы гэткія ксяндзы беларусы:

Кс. канонік А. Лісоўскі, кс. П. Татарыновіч, кс. Дулінец, кс. Кульпекша.

Гэткага прасьледаваньня, як ад свайго каталіцкага біскупа (але паляка), каталіцкія ксяндзы не дазнавалі навет ад маскоўскай ўлады.

---

# Што чуваць ў сьвеце.

**Забастоўка ангельскіх вуглякопаў** трывае ўжо чатыры месяцы. Спачатку вуглякопаў падтрымалі іншыя рабочыя ангельскія арганізацыі і таксама абвясьцілі забастоўку спачуцьця вугляком. Баставала звыш 4-х мільёнаў працаўнікоў.

Ангельскі Ўрад вельмі перапалохаўся агульнай забастоўкай і даклаў высілкаў, каб разлажыць забастовачны камітэт, і гэтым Урад дабіўся спыненьня агульнай забастоўкі. Цяпер вугляком прыходзіцца змагацца, пакладаючыся на ўласныя сілы,

Вуглякопы дамагаюцца: скарчэньня рабочага дню ў шахтах і передачы апошніх ва ўласнасьць дзяржавы.

Справа з вуглякопамі вельмі дорага каштуе Ангельскаму Ўраду, які яшчэ да пачатку забастоўкі выплаціў шахтаўласьнікам дапамогі 10 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў (500 мільёнаў літаў), каб яны ня зьменшалі платы рабочым.

Але гэткае вялікае выдаткаваньне не палепшыла справы: шахтаўласьнікі ня здолелі дагаварыцца з рабочымі і забастоўка распачалася. Шмат прадпрыёмстваў, карыстаючыхся вуглявым апалам павінны былі спыніць сваю працу. Так, прыкладам, прышлося затушыць каля 150 доменных пячэй.

З кожным днём барацьба абвастраецца. Шахтаўласьнікі наймаюць штрэйбрэхераў, якія працуюць пад абаронай паліцыі. Распачаўшаяся бойка вуглякопаў з паліцыяй і штрэйбрэхерамі на аднай з капальняў трывала 6 гадзін.

## Кангрэс нацыянальных меншасьцяў.

У Жэневе сабраўся кангрэс нацменшасьцяў. Зьехаліся прэдстаўнікі нямецкіх, польскіх, венгэрскіх, гебрэйскіх, славацкіх, украінскіх, беларускіх, літоўскіх, расейскіх і іншых нацменшасьцяў у рожных дзяржавах.

Кангрэс жадае выпрацаваць канстытуцыю правоў нацменшасьцяў у дзяржаве і мае на мэце скіраваць яе (канстытуцыю) ў Лігу Нацый.

Прэдстаўнікі беларуска-літоўскай нацменшасьці ў Польшчы дамагаліся, каб кангрэс таксама разгледзяў справу аб становішчы тых меншасьцяў, якія апынуліся ў межах чужацкай дзяржавы, дзякуючы насільлю і захопленьню іх абшараў дужэйшым суседам. Гэткія нацменшасьці маюць права вясьці свой распарадак і маюць права самаакрэсьляньня на тых абшарах, гдзе яны складаюць большасьць мейсцовага жыхарства.

На вялікі жаль, на іх слушную заяву кангрэс ня зьвярнуў увагі, і таму яны прымушаны былі пакінуць паседжаньне кангрэсу.

Нацменшасьці будучыну свайго істнаваньня павінны грунтаваць на праве, і вельмі сумна, што яны не падтрымалі права пакрыўджаных.

---

Redaktorius-leidėjas **E. Gaidukevičius.**

Рэдактар-выдавец **Е. Гайдукевіч.**

---

# Зьмест.

Страніца.